


Пабудуем новы прыгожы дом... Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 19 (1187) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 11.V.1980 г.

**А. Міцяеў**

# Выпадак на вайне

Міця Корнеў з таго часу, як пайшоў на вайну, ваяваў увесь час па лясах ды палях. За тры леты і тры зімы ані разу не начаваў пад цёплым дахам. І вось цяпер упершыню аказаўся ў горадзе. Не ў звычайным — у Берліне, у сталіцы фашысцкай Германіі.

Неба над Берлінам было дымнае, пыльнае. Сонца ледзь праглядвала праз снарадны дым і цагляны пыл. Не перастаючы, грукатала, грымела, вухкала. Узрываліся снарады, бомбы. Завальваліся будынкі — фашысты, адыходзячы, падрывалі іх, каб загарадзіць дарогу ў цэнтр Берліна.

Міця Корнеў ніяк не мог прывычаіцца да вайны ў горадзе. Хаваць арматы тут трэба было інакш: не за кустом, не за пагоркам — за грудамі цэглы, за вугламі дамоў.

Ззаду нашых гармат стаяў напалавіну абвалены дом. Магчыма, у ім і хаваўся, чакаючы на адпаведны момант, вораг.

— Вось што, Корнеў, — сказаў Міцю камандзір узвода, — агледзь гэты будынак усярэдзіне. Нешта ён мне не падабаецца...

Міця парассоўваў па кішэнях гранаты, паставіў аўтамат на баявы ўзвод і пайшоў выконваць загад. Па разваленых лесвіцах, па пустых кватэрах хадзіў паціху, каб нічым не зашумець. Але, як заўсёды бывае ў такіх выпадках, калі не хочаш зашумець, абавязкова налезеш на нешта. Так і Міця — зачапіў нагой жалезны дрот, які тырчаў са сцяны; цагляная глыба, прываленая да лесвіцы, раптам з грукатам звалілася з верхняга паверху на самы ніз. Міця прыціснуўся да сцяны, падрыхтаваўся страляць па фашыстах. Але ўсё было спакойна, было ціха ў разбураным доме. Толькі з вуліцы і з нябёс даходзіў няспынны гуд вайны.

Аблазіўшы гарышча і пераканаўшыся, што ўсе пакінулі дом, Міця спусціўся ўніз. І тут раптам яму пачуліся нейкія дзіўныя гукі — зусім незвычайныя для гэтых дзён. Яны ішлі, прыглушаныя і невыразныя, з кучы рэчаў, наваленых ля дзвярэй уваходу. Міця прыслухоўваўся, гукі паўтарыліся. Былі яны слабыя і такія жаласныя, што сэрца ў яго задрыжэла ў прадчуванні чагосьці незвычайнага і важнага.

Закінуўшы аўтамат на спіну, ён адкінуў верхнія клункі і ўбачыў пячорку сярод рэчаў. У ёй, прыціснуўшыся адзін да аднаго, ляжала трое дзяцей — двое зусім маленькіх, гады па чатыры, трэці гадоў сямі. Худзенькія, як дубчыкі. У прыцемках калідора былі відаць іх бледныя, змучаныя тварыкі. Той, што быў старэйшы, раптам падскочыў, адсунуў маленькіх, і ўзняў рукі ўверх.

— Ты што? — спытаў Міця. Але слоў у яго не выйшла. Застраглі ў горле. Так яму было крыўдна і горка, так шкада было няшчасных дзяцей. — Апусці рукі. — сказаў ён (на гэты раз выразна, спакойна) і лёгенька штурхнуў старэйшага.

Міця ўзяў на рукі маленькіх, кіўнуў старэйшаму, каб не адставаў. Пакрочыў, абыходзячы кучу друзу, да гармат.

Артылерысты стаялі ля гармат,

насцярожана глядзелі ўздоўж вуліцы, якая знікала ў дымнай далечыні. Нешта небяспечнае чакалася з той далечыні.

— Глядзіце, Міцька фрыцаў прывёў! Трох адразу! — крыкнуў наводчык Міцевай гарматы.

Усе агледзеліся. Камандзір узвода зноў нахіліўся да прыцэлу, нецярпліва крыкнуў:

— Корнеў! Малайчына! Пяць мінут часу — схаваць дзяцей. Адпаведна...

— Міцька, — параіў наводчык, — за домам, праз вуліцу, яшчэ адзін разбураны дом. Там у падвале поўна цывільных немцаў. Цягні туды дзяцей.



Міця ўжо збіраўся перайсці вуліцу, як па бліжэйшым слупе стрыкнула і заныла, адскочыўшы рыкашэтам, куля. Каб быў Міця адзін, ён бы праскочыў праз вуліцу. А цяпер ён быў не адзін. Маленькія супакоіліся і прыгрэліся ў яго на руках; старэйшы таксама паверыў у яго дабрату, ужо не раз на хаду браўся ручкай за яго нагавіцы. „Прыдзе рускі Іван, — палохалі фашысты бярлінцаў, — усім будзе смерць. Лепш забійце сябе і дзяцей самі“. Міця і не здагадваўся, што старэйшы, хаваючыся пад адзежай, маляваў сабе рускага Івана зубастым, аброслым валасамі — такім, якога сібірскія мядзведзі і тыя баяцца.

У бліжэйшым завулку забурчаў і роўна пачаў працаваць танкавы матор. Яшчэ не ведаючы, што будзе, Міця заспяшаўся туды.

— Прывет танкістам ад артылерыі! Перавязіце дзяцей на другі бок! Снайпер, сабака, страляе ўздоўж вуліцы.

Камандзір танка памаўчаў. Потым яго вочы пад густымі бровамі прыжмурыліся, шчокі надзьмуліся, так што вусы ўзняліся ўверх, ён не сказаў, а заспяваў:

— Давай!

І пацягнуў рукі, каб прыняць малых.

— Іван! Плёхо! Плёхо! — раптам закрычаў старэйшы хлопчык і абняў Міцевы боты. — Іван! Іван!

Маленькія з абодвух бакоў абхапілі Міцеву шыю рукамі і Міця адчуў іх слёзы на шчаках.

— Баяцца! Мяне баяцца... — сказаў танкіст. Са страшнай злосцю ён сплюнуў у бок. — Ну пабачаць яны ад мяне сёння... — І пачаў вылазіць з люка. — Лезь з імі, — сказаў ён Міцю, — вязі. І дай хлеба. І кансервы дай. Яны каля вадзіцеля, у рэчавым мяшку. А тэтым, пабачаць яны... Да Гітлера дабяруся. Што зрабілі з дзецьмі?

Міця крычаў па-руску каля падвала, каб выйшлі, узялі дзяцей. Потым крычаў па-нямецку хлопчык. Напалоханыя грукатам падыйшоўшага танка, немцы доўга не паказваліся. Нарэшце адважыліся. З-за цяжкіх дзвярэй выглянула некалькі жанчын. Дзеці сталі, узяўшыся за рукі, паміж імі і танкам. Пакуль танк не ад'ехаў.

Янка Маўр




# Максімка

(Пачатак у папярэднім нумары)

Дарога ў дзіцячы дом ішла каля самага плота. Максімка, рызыкуючы апячыся аб крапіву, прасунуў скрозь плот галаву і прагна сачыў за падарожнікам. Той набліжаўся шпарка; ён рабіў такія крокі, што толькі боты паблісквалі.

Калі мужчына падышоў зусім блізка, Максімка ўбачыў, — ён плячысты і такі высокі, што адны боты былі Максімку да падбародка. А твар у дзядзькі светлы і вельмі прыемны. Ды яшчэ медалі блішчаць. Магчыма, гэта і ёсць яго татка. Але як пазнаць яго? А можа, ён сам пазнае Максімку?

І хлопчык стараўся яшчэ больш высунуць галаву. Сярод крапівы ды лапухоў твар яго вызначаўся, як белая кветка, а вочы гарэлі, бы вугольчыкі. І столькі прагнага імкнення было ў гэтых вачах, што яны спынілі б вялікага дзядзьку нават і тады, каб былі накіраваны яму ў спіну.

Вайсковец прыпыніўся.

— Ты куды, браток, ушчаміўся, га? — сказаў ён са смехам. — Назад не вылезеш? Можа, дапамагчы табе?

— А вось і вылезу! — адказаў Максімка і адсунуўся назад, каб паказаць, што ніякай бяды няма.

Вайскоўцу нічога не заставалася, як ісці далей. А Максімка садам пайшоў за ім следам. Адзіная думка валодала ім: чый гэта татка? І тут жа разам цёплая надзея і мацнейшае жаданне штурхалі другое пытанне: а можа, мой?

Калі Максімка прыйшоў у дом, то ўбачыў, што вайсковец сядзіць адзін у сталовай і нібы кагосьці чакае. Ці не яго, Максімку?.. Маленькае сэрца застукала моцна-моцна. Ён стаіўся ля дзвярэй і стаў наглядаць. Вайсковец то ўставаў, падыходзіў да акна, то зноў садзіўся.

Чаму да яго ніхто не ідзе? І цёткі Каці няма. А яна ж заўсёды ведае, чый татка прыехаў і каго трэба паклікаць.

Не, відаць, ён не чый татка, а Максімкаў. Максімка адразу пазнаў яго: акурат пра такога самага татку ён заўсёды і думаў — і боты, і медалі, і дужы, і добры. І бачыў ён яго раней, калі быў малы. А татка цяпер не пазнаў Максімку таму, што ён ужо вырас...

Схіліўшы галаву і хвалюючыся, Максімка ўвайшоў у сталовую і бокам-бокам пасунуўся да вайскоўца. Той сядзеў, абапершыся локцямі аб калені, і штосьці такое думаў. У гэтую мінуту Максімка, сарамліва ўсміхаючыся, праціснуўся паміж каленяў і шчыра прытуліўся да яго грудзей.

Вайсковец зараз жа абняў Максімку, прытуліў, стаў гладзіць па галаве, гаворачы:

— Гэта ты, мой пацан? Той, што ўшчаміўся ў плоце? Добры хлопец. А як цябе зваць?

— Максімка, — ціха адказаў хлопчык, кратаючы медалі.

— Максімка? Вельмі добрае імя. У нас на вайне Максімкі здорава білі фашыстаў. Як зададуць ім — та-та-та! Фашысты ходу, дагары нагамі ляцяць! Во якія ў нас былі Максімкі!

— А яны былі вялікія?

— Не, малыя, такія самыя, як

ты, — смяецца татка, — і мы іх вазілі на калёсках.

Максімка зараз жа ўявіў сабе, як хлопчыкі сядзяць на калёсачках, а таткі шпарка-шпарка вязуць іх на немцаў. Максімкі страляюць — та-та-та! — а немцы ўцякаюць. Як шкада, што яго, Максімкі, там не было. І яго татка пакатаў бы, і яны разам фашыстаў білі б.

— А чаму ты мяне не ўзяў? — папікнуў Максімка татку.

— Не ведаў, братка ты мой, дзе ты жывеш, — зноў смяецца татка.

Ад гэтага смеху твар таткі робіцца яшчэ больш прыгожым і добрым. Максімка туліцца да яго бліжэй, перабірае рукою бліскучыя гузікі, рамяні. Ад кожнага руху таткі гэтыя рамяні рыпаюць, і ад іх ідзе нейкі прыемны пах. Ніколі не было Максімку так прыемна, так цёпла на сэрцы. Ён прытуліўся шчакой да таткавай рукі і спытаў:



— А машыну мне прывёз?

Раптам з таткам нешта здарылася: ён перастаў смяяцца, спахмурнеў, нават адсунуў руку ад Максімкавай шчакі, нібы чагосьці спалохаўся. Потым дзвюма рукамі моцна схапіў Максімку за плечы, паглядзеў на яго сур'ёзна, нібы сурова, і ціха прамовіў:

— Бедны хлопчык!..

Затым устаў, заспяшаўся, схіліўся над сваім чамаданам.

У гэтую хвіліну ў сталовую ўвайшла цётка Каця, а з ёю Толя. Толя крыкнуў: „Тата!“ — і пабег да вайскоўца, а той пайшоў яму насустрач, схапіў пад пахі, падняў высока-высока, а потым прыціснуў да сябе, пацалаваў і сказаў:

— А які ж ты вялікі зрабіўся!

Павярнуўшыся, ён зноў убачыў Максімку. Той стаяў ля яго чамадана, апусціўшы рукі, і з вялікай пакутай глядзеў на бацьку з сынам. З вачэй яго збіраліся скаціцца дзве кропелькі.

Вайсковец зноў перастаў смяяцца, спахмурнеў.

— Хто гэты хлопчык? Ці ёсць у яго бацькі? — ціха спытаў ён у цёткі Каці.

— Гэта наш слаўны Максімка, — адказала цётка Каця. — Бацька яго загінуў пад Сталінградам, а маці закатавалі немцы. Больш у яго нікога няма.

— Калі ласка, прашу вас, — стаў прасіць вайсковец, — суцешце яго як-небудзь. Ён жа палічыў мяне за свайго бацьку.

Вайсковец паставіў свайго сына на зямлю, падбег да чамадана, адчыніў яго і хуценька пачаў вымаць: дасканалую аўтамашыну, некалькі плітак шакаладу, размаляваную кніжку і яшчэ нейкія цікавыя рэчы. Усё гэта выклаўшы ён каля ног Максімкі і сказаў:

— Бяры, Максімка, гэта табе прыслалі.

**Працяг у наступным нумары**

# Вершы для маленькіх

Тэрэза Бікінайтэ

## РАНАК

З ясным досвіткам на ганак
Завітаў браток мой — Ранак.
Страсянуў з галін расіцу
Мне ў далоні:
„Мыцца, мыцца!“

Кацянятка пасняшае,
Носік мыць дапамагае.
Праз адкрытае аконца
Выцірае тварык
Сонца.



## САЎЛЮС РОБІЦЬ ЛУК

Лук майструю,
ды занадта
Цеціва караткавата.
Зрэзаў дубчыка палову,
Ды не змог сагнуць нанова.

І рагочуць з мяне стрэлы:
„Хоць сініцы будуць цэлы!“
„Не параніш мне ствала“, —
Крэкча ліпа ўскрай сяла.

**Пераклад з літоўскай**
**Ул. Васілевіча**





## ДОЖДЖЫК

Быў жа ён зусім малы,
А як стаў на ножкі,
Абабег усе вуглы,
Абскакаў дарожкі .

Што гарэзніку гара,
Дрэвы, агароджа!
Выбег з нашага двара
І ўстаяць не можа.

Дыб, дыб, дыб — і на сцяну,
Шлях далейшы сочыць.
У завулак сігануў,
На трамвай ускочыў.

На прыпынку светафор
Лыпнуў грозным вокам,
Ён — з падножкі і папёр
Вуліцай шырокай.

Не зважае на агні,
Смаліць на чырвоны.
Калі хочаш — дагані,
Дзе там —
не дагоніш!

Толькі пырскі ад вады,
Мільгаценне ножак...
Ой, наробіш ты бяды,
Непаслушны дожджык!

**Васіль Вітка**

# ЛЯЛЬКІ ЗАПРАШАЮЦЬ У КАЗКУ

Школьны лялькавы тэатр у Ляўкове — вялікая радасць для мясцовых дзяцей. Выступаюць у гэтым тэатры вучні чатвертага і пятага класаў — Аня Шадуя, Яня Немцуновіч, Аля Бельская, Аля Малатовіч, Толік Рубчэўскі, Лешэк Харкевіч і Адась Саевіч. Калі роляў у п'есе больш, далучаюцца і іншыя. У гэтым годзе дзеці падрыхтавалі дзве пастаноўкі — „Чырвоную шапачку" і „Пра ўпартага козліка". Самі зрабілі патрэбныя лялькі і касцюмы для іх.

Першымі глядзелі новую пастаноўку сябры са школы. Іх ацэнка была самая вартасная, бо трапная. Сябры арыентаваліся ва ўсіх клопатах і турботах артыстаў. Яны ж іменна найбольш любяць, калі выступае Аля Малатовіч. Яна так грае сваю ролю, што ўсе вакол забываюцца, што глядзяць спектакль, а перажываюць усё так, як бы ўсё дзеялася сапраўды.

І артысты, і гледачы ведаюць, што лялькавы тэатр існуе дзякуючы настаўніку Мікалаю Бартошуку. І ўсе дзеці стараюцца памагаць яму, як могуць. Многія дзеці, якія не граюць на сцэне, удзельнічаюць у падрыхтоўцы лялек. І трэба прызнаць, што некаторыя з іх робяць гэта па-майстэрску.

13 красавіка гэтага года на міжшкольным аглядзе лялькавых калектываў ляўкоўскія лялькары занялі чацвертае месца. І магчыма, што поспех быў бы яшчэ лепшы, каб у апошні момант не трэба было замяніць аднаго з артыстаў. Ад хвалявання з-за гэтага на другога з іх напала ікаўка — і гледачы, замест шкадаваць бедных герояў казкі, пачалі смяяцца з ікаючай лялькі. Што было рабіць? І так здараецца.

Усе вучні — і артысты, і іх прыхільнікі вераць, што ў наступным годзе яны зоймуць яшчэ лепшае месца.

**(яц)**




## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Мы, піянеры 5 класа сярэдняй школы горада Благавешчанска, хочам перапісвацца з вамі.

Наш горад вялікі і прыгожы, ён знаходзіцца на Далёкім Усходзе. Ён ляжыць пры суліцці дзвюх рэк — Амура і Зеі. Наша школа № 15 носіць імя С. М. Будзённага. У школе прыгожыя кабінеты, ёсць бібліятэка і спартыўная зала. У гэтым годзе наша школа заняла першае месца ў спаборніцтве паміж школамі горада.

Мы вельмі хацелі б, каб вы напісалі нам аб сваёй школе, аб вашым горадзе, аб сваіх піянерскіх справах.

**Вучні пятага класа**
(35 поўных подпісаў.)

Вось наш адрас: **СССР, 675020, Амурскаая обл., г. Благовещенск, ул. Театральная 276. Средняя школа № 15, 5 класс.**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ❊ *

— Учора я адаслаў аднаго вучня дадому, бо прыйшоў у школу брудны, — скардзіцца настаўнік.

— Ну а сёння?

— Сёння ўвесь клас прыйшоў брудны.

* ❊ *

Настаўнік:

— Калі пішуцца вялікія літары.

Вучань:

— Калі чалавек кепска бачыць.

* ❊ *

— Уяві сабе, Юрка мяне сёння стукнуў!

— А ты што, аддаў яму?

— Так, яшчэ ўчора.

* ❊ *

Настаўнік пытаецца вучня:

— Колькі важыць адзін грам?

— Не ведаю, я яшчэ не важыў, — адказвае той.

* ❊ *

— Чаму ты двойку атрымаў? Ты што, не разумееў, пра што пытаецца настаўнік?

— Я яго разумееў, але ён мяне не.

* ❊ *

Настаўнік:

— Што зрабіў Карл IV, калі узышоў на трон?

Вучань:

— Сеў на яго.

* ❊ *

— Бабулька, можна ўзяць з сабой гэтую варону?

— Навошта яна табе?

— Я хачу праверыць, ці праўда, што варона жыве трыста гадоў.

# Пазнаёмімся

БССР, 231800, г. Слонім-2 Гродзенскай вобласці, вул. Мінскі тракт, 21, кв. 1. Тамара Сілакова, вучаніца 5 класа.

* ❊ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Чыгуначная, 4, кв. 1. Сяргей Мароз, 10 гадоў.

* ❊ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Мінскі тракт, 77-А, кв. 1. Валеры Ягаўдзік, 10 гадоў.

* ❊ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Загарадная, 36, кв. 2. Мікалай Паўлаў, 10 гадоў.

# АДГАДАНКА



У час веснавых парадкаў дзеці паскідалі разам прылады і не могуць разабрацца, што чыё. Паспрабуй дапамагчы ім.

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.